# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1792) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 16 ВЕРАСНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## БЕЛАРУСЬ:

## ЯЕ ЛЮДЗІ І АДЗЕННЕ

**Вялікая і багатая спадчына нашага народу. Адным з прыкладаў гэтага багацця можа быць наша нацыянальнае адзенне. Дзеды і прадзеды нашы не ленаваліся, шмат сілы і мастацкага густу ўкладалі ў прыгажосць асяроддзя, быту. І ўсё рабілі ўласнымі сіламі, не аглядаліся на іншых. З лёну, воўны ўласнымі рукамі выраблялі цуды.**

**Вось на здымку Маргарыта Іванова — мастацкі кіраўнік узорнага фальклорнага калектыву „Зорачка", які працуе пры Рэспубліканскім палацы піянераў у Мінску.**

**Зацікаўленне беларускім фальклорам Маргарыта вынесла з дому (маці — настаўніца беларускай мовы і літаратуры, а дзед быў сябрам Янкі Купалы). Усё сваё свядомае жыццё Маргарыта правяла ў асяроддзі народнай музыкі, песні, танца. Калектыў „Зорачка" збірае і апрацоўвае народную творчасць з тэрыторыі ўсёй Беларусі.**

**Здымак зроблены на канцэрце ў Орлі, дзе невялічкая, дзесяціасабовая трупка моладзі з „Зорачкі" выступіла ў адзенні розных рэгіёнаў — Міншчыны, Гродзеншчыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны і іншых.**

**Маргарыта тут у касцюме з Міншчыны. На галаве — цудоўна выплеценая з саломкі скіндачка.**

**Тэкст і фота Я. Чэрнякевіч**



## СА СВЯТОЙ ВАДОЙ

**Размова са святаром**

**МІКОЛАМ КАЛІНАМ**

**„Ніва":** Вы — настаяцель трох прыходаў.

**М. Каліна:** У Сувалках, у Элку і Аўгустове. Элк — прыход найбольшы, я там адпраўляю багаслужбу два разы ў месяц, раз — у Сувалках і Аўгустове. Сам жыву ў Беластоку.

**„Н":** Некалькі месяцаў назад абакралі царкву ў Сувалках...

**М.К.:** Пільнаваць царквы няма каму. Бабуля, што жыве ля могілак, нібыта і пільнуе, але яна ўжо надта старэнькая: і не дачуе і не дагледзіць. Калі ноччу і чула нешта (яна адна жыве там), магла б і пабаяцца. Я ў панядзелак раніцай атрымаў тэлеграму ад паліцыі, што ўзлом у царкву быў...

**„Н":** Царкоўнае багацце, скарб нашай культуры, гісторыі, у апошнія часы трапляе ў рукі зладзеяў. У вас забралі два евангеллі, іконы, падсвечнікі, харугву. Забіраюць усё, што трапляе ў рукі, а ўсяму гэтаму — няма цаны. Крадуць, падпальваюць старажытныя будынкі... Царква ў Сувалках — драўляная...

**М.К.:** Я думаю, што яна недзе з пачатку XIX стагоддзя. Калі я прыйшоў на прыход у 1983 годзе, ніякай дакументацыі на гэту тэму не атрымаў. Яна была цвінтарнаю царквой. Да вайны былі ў Сувалках дзве вялікія цэрквы. У вайну адну разбурылі, а другая стаяла. Праваслаўных было нямнога. Не было каму заняцца будынкам. Зладзеі параскрадалі ўсё, а руіны царквы былі прададзены. Засталася толькі гэтая царкоўка. На службу прыходзіць 8-10 чалавек, а сем'яў усіх — 15. У Элку прыходзіць 30-40 чалавек, у Аўгустове — 6-7 чалавек. Праваслаўных нямнога тут ёсць. На 15 сем'яў у Аўгустове і Сувалках прымаюць са святой вадой. У Сувалках прыхаджане — гэта перш за ўсё пенсіянеры, моладзь пайшла ў касцёл. Няма ні хрысцін, ні шлюбаў, толькі адны пахаванні. Не відаць, каб парафія нейкім спосабам павялічылася ці памаладзела. Такі лёс маленькіх прыходаў. Праўда, ёсць некалькі маладых сем'яў.

**(Працяг на стар. 4)**

## ШУКАЮ ТОЕ, ШТО ЗГУБІЛА

Вера Шэйпак заглянула ў рэдакцыю „Нівы" спякотным жнівеньскім днём гэтага года.

— Чытаю рэгулярна вашу газету, — сказала, — усіх журналістаў ведаю па іх творчасці. Жыву далёка ад вас — аж у Аўстраліі. Хацела б пазнаёміцца з вамі асабіста.

Аказваецца, для аўстралійскіх беларусаў - беластачан „Ніва" — гэта кантакт з домам, з Беласточчынай, з усім родным. Прыемна было нам у рэдакцыі чуць гэта. Але захацелася мне даведацца і больш пра Веру. Не так часта сустракаем людзей, якія з такім пачуццём адносяцца да бацькоўскага кутка, да людзей свайго роду-племені ды яшчэ не хаваюць сваіх пачуццяў.

Веры ўжо пад 60. Узрост, калі чалавек упоўні ўсведамляе сваё „я" і сваё месца сярод людзей. Жыццё не дало Веры шанцаў вучыцца. Адукацыю давялося скончыць на падставоўцы ў родных Рыбаках, невялікай вёсачцы, што ўтульна прыцісնуліся да больших Бандароў. Але яе начытанасці сённяшняй, яе знаўству беларускай гісторыі, літаратуры, разуменню сучаснага няпростага свету не адзін з нас мог бы пазайздросціць.

Вера рана страціла бацьку. Ён памёр на сухоты яшчэ ў 40-ым. На гаспадарцы засталася маці з чацвёркай дзяцей. А старэйшая з іх — 10-гадовая Вера. Якім знішчальным напружаннем сіл здабывала яна з маці Галенай хлеб для сям'і, якой непасільнай працай цягнулі ўдава з малымі дзецьмі гаспадарку, толькі яны адны, ды яшчэ, можа, суседзі ведаюць. Пакуль яшчэ жыў бацькаў брат, той памагаў ім як і чым мог. Але і яго спасцігла тая ж хвароба. Доўга хварэў, а затым памёр амаль на руках ужо дарослай Веры.

Сухоты не адступаліся ад іх сям'і. У 1953 годзе памерла ад гэтай страшнай хваробы і сястра Люба. Вера і за ёю аж да смерці даглядала. Пры першым кашлі Веру апанаваў страх перад сухотамі. Здавалася, што гэтая навала на іх дом не абміне і яе. Тым больш, што непасільная праца на гаспадарцы здавалася найкарацейшым шляхам проста ў абдымкі хваробе, якая ломіць найчасцей людзей, змучаных працай і недаяданнем.

Пяцідзесятыя гады на гаспадарцы былі наогул вельмі цяжкімі. За свае паўучастка зямлі Галена абавязана была здаваць дзяржаве 200 кг мяса, 500 кг жы-

**(Працяг на стар. 6)**

## НА мяжы

На працягу досыць доўгага перыяду мне ў часе знаходжання ў БССР давалася магчымасць выступаць разам з беларускімі савецкімі літаратарамі на аўтарскіх сустрэчах. Як правіла, сустрэчы гэтыя арганізаваліся ў школах. Часам выступаў я і на фабрыках, у калгасах, ва ўстановах. Там наогул адчуваўся халадок або абыякавасць з боку прысутных. Чым болей быў русіфікаваны аб'ект, тым адносіны да беларускіх пісьменнікаў былі болей халодныя, нават непрыхільныя.

Сітуацыя мая як пісьменніка і чужаземца была досыць нялёгкая. Я не мог сказаць востра і шчыра, калі сустракаўся з большай ці меншай варожасцю да беларускага слова. Не раз здаралася, што вядучы спатканне звяртаўся да нас з просьбай: „Будьте добры, пожалуйста, говорите по-русски. Белорусский язык у нас не пользуется уважением“. Я, зразумела, у такіх сітуацыях з тым большым азартам гаварыў па-беларуску. Не раз мне ўдавалася разбіваць сцяну непрыхільнасці. Аднак для гэтага патрабавалася максімальная інтэлектуальная і паэтычная мабілізацыя. У такіх выпадках слухачы, выходзячы, кідалі ў мой адрас словы, ад якіх я не ведаў, цешыцца ці смуткаваць. Гаварылі, напрыклад: „Отлично рассказываете и пишете. Но зачем вы ломаете язык, ведь у вас получилось бы хорошо и по-русски?“.

Здараліся аднак і такія выпадкі, калі я не змог разбурыць сцяны абыякавасці і пагарды. Праяўлялася гэта ў злавесным маўчанні або ў такіх словах, выказаных так, каб я і не чуў: „Снова заставили выслушивать эту их белмову“, або „И кому нужен этот белорусский язык? Эти белорусские поэты делают из себя клоунов и больше ничего“.

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

У адной з устаноў у Мінску нейкая задзірлівая жанчына ўстала і сказала: „Уж вы бросьте с этим белорусским языком. Ведь никого не убедите, что вы этим языком пользуетесь в семье, живя в Варшаве“.

Расправіцца з гэтай жанчынай было мне лёгка. Я адкрыў папку і дастаў з яе два лісты. Адзін быў мною напісаны да жонкі і яшчэ не высланы, а другі прыйшоў ад жонкі з Варшавы. Я ўручыў жанчыне два лісты з просьбай, каб яна іх прачытала. Узнялася малая суматоха. Частка залы была супраць таго, каб чытаць чужыя лісты. Аднак другая частка, зацікаўленая здарэннем, крычала: „Пусть читает, если поэт согласен“. Жанчына з майго ліста прачытала толькі першы радок. Далей не магла, бо мой почырк чытае ўсяго некалькі чалавек на свеце. Затое ліст ад Нінкі чытала жанчына даволі бойка.

Мая перамога была поўнай. Устала нейкая жанчына і сказала: „А всё-таки, товарищи, нам должно быть стыдно. Мы, белорусы, живем на собственной земле и не знаем родного языка, а вот человек заброшен в польскую среду и нашел возможность не только защитить родной язык, но и писать на нем поэзию“. На гэтай сустрэчы атрымаў я бурную авацыю, а тая жанчына, якая не верыла, што я, жывучы ў Варшаве, паслугоўваюся дома, ды не толькі, беларускай мовай, падыйшла да мяне і сказала: „Извините за то, что я сказала“.

Аднак такіх перамог было параўнаўча няalthough многа. Наогул, аўтарскія сустрэчы ўспрымаліся як яшчэ адзін нікому непатрэбны прымусовы сход.

Аднак, найбольш прыемна тое, што, прыехаўшы зноў у Мінск, вельмі часта я даведваўся ў бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў БССР аб тым, што тыя ўстановы, у якіх я ўжо выступаў, званілі, дзякавалі і прасілі, каб я зноў у іх выступіў.

Сказанае амаль што пахне самахвальствам, і таму не буду развіваць гэтай тэмы. Генеральна ацэньваючы свае сустрэчы з беларускай грамадскасцю, хачу падкрэсліць, што ў ніякім разе не залічваю сябе да пераможцаў і не веру, каб нехта пад маім уплывам перамяніў адносіны да беларускай мовы і каб перайшоў з рускай на беларускую гутарку ў штодзённым жыцці. Аўтарскія сустрэчы пераканалі мяне, што беларуская мова ў Беларусі знаходзіцца ў страшэнным паднявольным становішчы і што да пачуцця гонару беларусаў яшчэ страшэнна доўгая дарога.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Скарынаўскія святкаванні адбыліся ў Мінску.** Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел госці з саюзных рэспублік і з многіх замежных краін. Сярод іх — прамы нашчадак Францішка Скарыны, доктар медыцынскіх і філасофскіх навук **Стэнлі Скарына** з Канады. Дэлегацыю ад Галоўнага праўлення БГКТ узначальваў яго старшыня **Аляксандр Баршчэўскі.**

**Дзесяцігоддзе „Салідарнасці“ адзначалася ва ўсёй краіне. Анатолій Кашпіроўскі,** які прымаў удзел у святкаваннях у Гданьску, перадаў **Леху Валэнсу** чэк на суму 60 мільёнаў злотых з мэтай сфінансаваць мемарыяльную дошку з 21 пастулатам гданьскіх суднабудаўнікоў ад жніўня 1980 г.

**Пачаўся новы навучальны год.** У Беластоцкім ваяводстве ў 364 падставовых школах вучыцца 92 тысячы вучняў, з таго каля 13 тысяч — у Беластоку. У 20 агульнаадукацыйных ліцэях — больш 10 тысяч моладзі.

**Сінод епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы,** у сувязі з увядзеннем навучання рэлігіі ў школы, вырашыў у мясцовасцях, дзе ёсць больш праваслаўных вучняў, весці ўрокі ў школах. Так арганізаванае навучанне рэлігіі будзе праводзіцца ў паўднёва-ўсходніх гмінах Беласточчыны і ў гарадах — Беластоку, Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы. У мясцовасцях, дзе малая колькасць праваслаўнай моладзі, урокі рэлігіі будуць арганізаваны пры цэрквах.

**Вышэйшая каталіцкая духоўная семінарыя была адкрыта ў Гродне.** Ва ўрачыстасці ўдзельнічаў папскі нунцый архіепіскап **Францэска Каласуона.** Малебен адслужыў біскуп **Тадэуш Кандрусевіч,** які выступіў з пропаведдзю на польскай і беларускай мовах.

**Чарговая група 103 дзяцей з чарнобыльскай зоны** прабывае на Беласточчыне. Трохтыднёвы адпачынак для дзяцей з беларускіх вёсак і мястэчак арганізуе Польскі камітэт „Дзеці Чарнобыля“ і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Дапамагаюць ім у гэтым праваслаўныя і каталіцкія святары, жыхары Беластока і ваяводства, прадпрыемствы. Грашовыя ахвяраванні можна ўплачваць на рахунак: Bank PKO SA Oddział Białystok Nr 505013-09001918-132-2-001110.

**Японія,** якая першая пацярпела ад радыяцыі, **дапаможа ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.** Гэтае рашэнне было прынята ў час візіта міністра замежных спраў СССР **Эдуарда Шэварднадзэ** ў Токіо.

**Гранічны пункт Кузніца — Гродна** будзе адкрыты для шасейнага турысцкага і таварнага руху 30 верасня г.г. Ад 1 лютага 1991 г. для таварнага руху будзе адкрыты гранічны пункт у **Баброўніках.**

**Антыяўрэйскі надпіс** быў намаляваны на мемарыяльнай дошцы, прысвечанай мартыралогіі яўрэяў на т.зв. „Умшлагпляцы“ ў Варшаве. У сувязі з гэтым абуральным фактам міністр **Аляксандр Галь** ад імя ўрада склаў букет кветак у гонар загінуўшых яўрэяў.

**„Узрыўчатка знаходзіцца ў будынку суда ў Беластоку“** — такі ананімны тэлефон атрымала рэдакцыя „Кур'ера Падляшскага“. На шчасце, інфармацыя аказалася фальшывай.






### НЕТАЛЕРАНТНАСЦЬ І НЯРОЎНАСЦЬ

За апошняе дзесяцігоддзе, асабліва ў апошнія гады, згарэлі каштоўныя помнікі дойлідства — драўляныя цэрквы ў Кленіках, Крушынянах, Чыжах, Ячне, Нарве, а нядаўна, 12 ліпеня гэтага года, была падпалена і згарэла царква-помнік на святым для праваслаўя месцы — на Святой гары Грабарка.

Спаленыя цэрквы былі часткай нашай гісторыі, культуры і мастацтва нашага рэгіёну. Дакументавалі яны непарыўнасць нашай гісторыі ад XVI стагоддзя да сённяшняга дня. У спаленых цэрквах, напр. у Чыжах знаходзіліся фрэскі, насценныя карціны, унікальныя ў нашым ваяводстве, у Польшчы, а таксама 14 вельмі каштоўных помнікаў — пераносных ікон і карцін, якія пайшлі з дымам назаўсёды. Велізарная гэта і балючая страта для ўсіх праваслаўных, але гэта таксама і вялікая страта для нашай Айчыны — Польшчы.

У дэмакратычных краінах, у талерантных і культурных грамадствах выхоўваюцца адпаведныя адносіны да ўсіх храмаў. Яны з'яўляюцца элементамі агульнанароднай культуры і дабрабыту. Іх ахоўваюць, узбагачваюць на працягу ўсёй гісторыі дзяржаў і народаў. Як жа ж не ўпісваюцца ў такія шляхетныя панцыі падзеі на Беласточчыне!

Мы хочам будаваць у нашай краіне плюралістычнае грамадства — шматпартыйнае, шматнацыянальнае, з вялікай рэлігійнай талерантнасцю. Маем намер (на словах, прынамсі) уводзіць у нашае жыццё сістэмы, якія справядліва рэгулявалі б не толькі матэрыяльны дабрабыт грамадства, але таксама і духоўнае і інтэлектуальнае яго багацце.

Аднак штодзённае жыццё не пацвярджае гэтага. Вось адзін з прыкладаў. Шмат гадоў беластоцкі ваявода выкручваўся ад рашэння перадаць будынак, спалучаны з царквою св. Янатэолага, праваслаўнаму манастыру ў Супраслі. Гэты будынак уваходзіць у адну інтэгральную цэласць з адбудаваным у значнай меры грамадскімі сіламі праваслаўя храмам, гэта адзіны комплекс — помнік сакральнай культуры.

Іншым прыкладам такога захоўвання з'яўляецца адцягванне Сеймам прыняцця закона „Аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы“.

Салідарызуючыся з заявай пасла Яўгена Чыквіна, адчытанай на пленарным пасяджэнні Сейма 28.07.1990 г., і выказваючы пачуцці больш чым 200-тысячнай грамадскасці беларусаў і праваслаўных Беласточчыны, якія аддаюць сваёй польскай айчыне нароўні з палякамі свае сэрцы, сілы і таленты, веды і працу і маюць поўнае права спадзявацца ад улад аднолькавых адносін да ўсіх грамадзян (мы не выбіралі сабе айчыны, мы не эмігранты, а тутэйшыя з дзеда-прадзеда на роднай зямлі), звяртаемся да ваяводы беластоцкага, старшыні Грамадзянскага камітэта, ваяводскага пракурора і ваяводскага каменданта паліцыі пачаць і давесці да канчатковага і аб'ектыўнага выяснення справу масавых пажараў цэркваў, каб вырашыць гадамі нарастаючыя праблемы, каб расчысціць шлях да фармавання лепшых, чым сёння, норм сужыцця розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў у нашым ваяводстве. Неабходна падыходзіць да гэтых праблем аб'ектыўна — без зацятасці, нянавісці, так, як сярод культурных народаў.

**Янка Зенюк**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## — А ХТО ТАМ ІДЗЕ?

... спытаўся стары дзедка, што сядзеў на лаўцы.

— Беларуская моладзь, дзедку, праваслаўная!

— А скуль то, і куды так спяшаеце?

— О, дзедку, з Гарадка ідзем, аж у самыя Рыбалы, — адказвалі мы так неаднойчы на шляху II рэйду праваслаўнай моладзі. А праходзіў ён 15-18 ліпеня.

Яшчэ не адгучалі апошнія акорды Свята беларускай маладзёжнай песні ў Гарадку, як пры тамашняй царкве пачалі збірацца першыя ўдзельнікі рэйду. У нядзелю падвечар дажджом зацягнула, таму вельмі прыемна і сапраўды па-хатняму было пасядзець у прытульным Доме культуры імя К. Каліноўскага. Тут жа мы і заначавалі.

У панядзелак, наранку, пасля супольнае малітвы і сняданка ўсе падаліся ў царкву, дзе быў адслужаны малебен за шчаслівае падарожжа. А дарога чакала нас даволі доўгая: з Гарадка праз Міхалова ў Алексічы каля Заблудава.

Калі выходзілі з Гарадка, марасіў дробны дождж. Ды што там дождж, калі ўсе разам і радасны настрой з намі! І так зайшлі мы ў Міхалова, мястэчка з колішнімі аспірацыямі перагнаць Беласток. Тут мы затрымаліся ў доме свяшчэнніка. Пабывалі ў царкве, дзе настаяцель расказаў нам кароткую гісторыю храма ды звярнуў асаблівую ўвагу на стыль яго пабудовы. Міхалоўскі храм — гэта цікавы прыклад эклектыкі ў драўляным сакральным дойлідстве.

Пасля абеду пайшлі мы ў Тапаляны. І тут мы пабачылі цікавую драўляную царкву з I паловы XVIII ст. З Тапалян недалёкі ўжо шлях на святое месца — Пяценку. Перад Пяценкай скрунулі ў Тыльвіцу, дзе ў бабулі нашага рэйдавага сябра Хрыся Сяськевіча пасмакавалі халоднай вады з каменнага калодзежа. З Тыльвіцы як рукой падаць да пагорка Князева гара, дзе знаходзіцца вялікая святыня праваслаўных беларусаў, асабліва пражываючых паміж Нарваю і Супраслю, Пяценка (так як і здаўна Грабарка для беларусаў паміж Нарваю і Бугам). Многім з нас упершыню давялося пабываць на гэтым месцы, адчуць яго святасць, малітоўны настрой, панявольна ахапляючы істоту, ды напіцца святое вады з крыніцы, дзе, паводле падання, аб'явілася Божая Маці. Выслухалі таксама мы расказ свяшчэнніка аб цудоўна абноўленай у 1929 г. іконе, ад якой многія атрымлівалі ласкі. На жаль, няма ўжо многія гады іконы ў храме. Нейкая паганая рука выкрала яе.

На Пяценцы два храмы: драўляная царква з I паловы XVIII ст., што стаіць сярод намагільных крыжоў, ды каплічка з 1707 года на цудоўнай крыніцы. Цікава, што Пяценка, як нямногія цэрквы на Падляшшы, ніколі не была ў валоданні уніятаў. З Пяценкі падаліся мы ў Алексічы. Па дарозе праходзілі праз Малынку, вёсачку с.п. дзядзькі Кваса, неапаўторнага карэспандэнта „Нівы".

У Алексічы прыбылі мы позным вечарам. Тут нас чакалі спадары Міргановічы. Як добра было засесці пасля дарожнай натугі да смакавітай вячэры. За яе трэба падзякаваць нашым дзяўчатам, ды й асаблівa гаспадыні дома. У Алексічы прыехалі да нас Эля Бэзюк і Сяржук Сокалаў-Воюш. І было вогнішча... Яўген Міргановіч расказваў пра праваслаўныя традыцыі ды слаўнае баярскае мінулае ваколіц Заблудава. А далей спяваў Сяржук, спяваў „Бзык" і ўся грамада, спяваў і Ярэк з гаsам Данчыка. Спявала Даша свайго „Рыцара", Маргарытка спявала Стахуру, спяваў і Коля „Залешаны", песню, што так да болю ўспрымалася ў тыя дні смуткавання па Грабарцы...

Наступным днём развіталіся мы з гасціннай сям'ёй Міргановічаў і накіраваліся далей. Праходзілі праз Давідавічы, Цялушкі, а перайшоўшы раку Нарву, апынуліся ў Козліках. Мясцовасць прыгожая, хаты стаяць на высокім беразе ракі. Тут жа і царкоўка св. Міколы з 1794 г. з вельмі цікавымі старажытнымі іконамі. З Козлікаў, праходзячы каля ветрака „руска-ўкраінцаў", падаліся мы ў бок Канюкоў. Калі пераходзілі бродам Нарву, Канюкі нас прывіталі шпаркім ліўнем. Шчасце, што да добрых людзей было недалёка.

... І так, усе мы седзімо, чай папіваючы, ва ўтульнай хатцы — майстэрні Уладзіміра Наўмюка ды слухаем ягоны захапляючы расказ аб разьбе. У нашы вочы глядзяць твары постацяў, заварожаных у дрэве: то разважлівая бабуля з унучкам, то задумлівы пастушок, то радасны рыбак.. На нейкую хвіліну пераносімся ў свет, які мінуў, якога мы не зведалі і больш не пабачым. Шкада развітвацца з нашым добрым спадаром Уладзімірам, але што ж, нас чакаюць у Рыбалах. На развітанне яшчэ спяваем песню пра „Бацькоўскі парог" на словы айца Уладзіміра Місеюка з Саколкі... Да Рыбал недалёка.



*Царква ў Тапалянах.* *Мал. У. Петрука*

Тут нас прывітаў Юрка Федарук са сваімі бацькамі. Час быў позні, таму, доўга не сядзеўшы, пайшлі мы на адпачынак. Назаўтра, значыць, у сераду, падаліся ў царкву, дзе супольна маліліся ў падзяку за шчаслівае завяршэнне нашага шляху. Пасля службы а. Рыгор Сасна ў гарачым слове выказаў сваё вялікае задавальненне, што мы, маладыя беларусы, ступаючы па зямлі продкаў, хочам пазнаваць яе традыцыі, непарыўна звязаныя з Праваслаўем.

Апошнім акордам рэйду было спатканне ў клубе з паэтэсай Ірынай Баравік і Уладзімірам Паўлючуком, загадчыкам кафедры рэлігіязнаўства Ягелонскага універсітэта ў Кракаве ды айцом Рыгорам Сасною. Пасля супольнага абеду, падрыхтаванага рыбалаўскай моладдзю, Уладзімір Паўлючук расказаў аб рэлігіі ў посткамуністычных грамадствах. Звярнуў тут асаблівую ўвагу на феномен польскага каталіцызму пасля II сусветнай вайны. Затым завязалася размова. Гаварылася тут нямала аб месцы нацыянальнай мовы ў царкве. Сваімі меркаваннямі на гэту тэму дзяліўся а. Рыгор Сасна, дац. Уладзімір Паўлючук ды рэйдавая сябрына. А Ірына Баравік чытала свае вершы, пісаныя на гаворцы вёскі Мора.

Гэтай сустрэчай закончылася нашае вандраванне. Кароткае яно было, але дало магчымасць узаемнага пазнання. І супольная дарога, і малітвы, і песні, і гутаркі паслужылі нашаму духоўнаму дасканаленню ды былі стымулам для арганізацыі наступнага рэйду праз год.

**Дарко і Марко**

### АРГАНІЗАТАРЫ РЭЙДУ ДЗЯКУЮЦЬ:

**Элі Бэзюк** за дапамогу ў падрыхтоўцы трасы,

**БАСу** за фінансавую дапамогу,

**Тамары Бурачэўскай,** дырэктару Дома культуры ў Гарадку, за гасціннасць,

**айцу Рыгору Шырынскаму** з Гарадка за малітву,

**настаяцелю** з Міхалова за гасціннасць і добразычлівасць,

**настаяцелю** з Тапалян за магчымасць пабачыць храмы ў прыходзе,

**Сяржуку Сокалаву-Воюшу** за песні,

**сям'і Міргановічаў** за гасцінны прыём у Алексічах,

**Уладзіміру Наўмюку** за прыём і цудоўнае расказванне аб разьбе,

**айцу Рыгору Сасне** за малітвы і фінансавую дапамогу,

**Уладзіміру Паўлючуку** і **Ірыне Баравік** за цікавую сустрэчу,

**Юрку Федаруку, яго сям'і ды рыбалаўскай сябрыне** за стварэнне нам сапраўды хатняй атмасферы ў Рыбалах,

... а таксама ўсім, тым, не ўспомненым, без якіх вандраванне не магло б адбыцца.

**Многая лета!**

 

**НА ВЕТРЫ**

Васіль і Ганка жылі па-суседку. Разам гулялі, разам хадзілі ў школу. Добрымі былі сябрамі.

Васіль прыехаў з арміі ў водпуск. На забаве танцаваў толькі з Ганнай, пасля правёў яе дадому. Пакуль не скончыўся водпуск, штодзённа прыходзіў на вячоркі.

— Ганна, — гаварылі бацькі, — мы бяднейшыя за іх. Яго маці не дазволіць, каб ты прыйшла да іх.

Бацькі Васіля гатовы былі разнесці Ганну са злосці.

— Ты ўжо зусім здурэў, сыну, — плакала маці. — Гэта не гонар, каб галайку ўвесці ў хату.

— Што?! — злаваў Васіль. — Мая Ганка — галайка?! Не хочаце нявесткі, дык не будзеце мець і сына! Не бяда! Цяпер патрэбны рабочыя рукі, не так, як калісь. Адразу пасля вяселля паедзем у Прусы.

Так яно і было. Не паслухаў Васіль бацькоў і зрабіў па-свойму. У Прусах працавалі ў полі летам, а зімой было шмат працы на панадворку ПГРа. Зараблялі добра, жылі згодна.

Ганна была ў шостым месяцы цяжарнасці, калі памёр яе бацька. Прыехалі на пахаванне. Як кожная дачка, Ганна пачала галасіць. Васіль не дазваляў ёй плакаць: „Зразумей, бацька сваё пражыў, а ты цяжарная. Твая роспач можа адбіцца на дзіцяці або і на самой табе“...

— Як яны згодна жывуць! — зайздросцілі суседкі.

Прайшлі гады. Сужонства пераехала бліжэй да сваіх бацькоў. Пасяліліся ў горадзе. Жылі вельмі добра. Нікому ў галаву не прыйшло, што можа быць інакш.

Дачка выйшла замуж, другая пайшла вучыцца ва універсітэт. Сын закончыў пачатковую школу.

Васіль выпадкова пазнаёміўся з маладой дзяўчынай. Закахаўся ў яе па вушы. Узаемна.

Пачаў прыходзіць дадому п'яны. Груба адзываўся да сям'і і часта біў жонку.

— Чаго ты ад мяне хочаш? — запытала пакрыўджаная Ганка.

— Ты зусім дурная і на чалавека непадобная! — з пагардай крыкнуў Васіль.

— А на каго я падобная?

— На зялёнага кракадзіла!

Не было выхаду. Развяліся.

Вось як бывае ў жыцці. Найгарачэйшае каханне патухае на ветры.

**Аўрора**

**ШТО З МПК У БЕЛЬСКУ?**

**Калі па Бельску пачынаў ездзіць гарадскі аўтобус, памятаем, якая гэта была радасць для яго жыхароў. Потым былі ўжо аўтобусы ліній 2, а затым і 3.**

**Цяпер жа зрабілі яшчэ лінію 1А, каб ездзілі аўтобусы на агародныя ўчасткі.**

**І ўсё было б добра, каб тыя аўтобусы ездзілі рэгулярна. Але пачаліся зрывы курсаў. То няма аднаго, потым другога. А цяпер пачалі тыя аўтобусы ездзіць толькі рана і пасля абеду. А чаму не як раней штогадзіну?**

**А ў суботу лінія 3 наогул не абслугоўваецца, хоць ахвотных ездзіць ёсць вельмі многа. Чым жа гэтая лінія горшая за іншыя?**

**Андрэй Гаўрылюк**

**СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ**



*Беласток. Вул. Мазавецкая.*
*Мал. У. Петрука*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**— 12 —**

Штораз больш партыйцаў выкідвае або спальвае свае членскія білеты (легітымацыі). Работнікі і сяляне не робяць гэтага так дэманстратыўна. Звычайна, перастаюць прыходзіць на сходы, вітацца з сакратарамі. Зянон Пазьняк прадбачвае, што прыблізна праз пяць гадоў застануцца толькі адны ўспаміны ад цяперашняга Савецкага Саюза. Сама Расія, апусціўшыся да дна беднасці, адмаўляецца дапамагаць каму-кольвек за „дзякуй“. Беларуская Рэспубліка пакінута свайму чарнобыльскаму лёсу; каб паратаваць яе, трэба б Маскве дашчэнту распрадацца. Мус таму адрэзаць ад расійскай шыі шнур з гэтым каменем!

Вярхоўны Савет Беларускай ССР нарэшце забіў трывогу на цэлы свет (праз чатыры гады ад катастрофы!). Еўропа з Амерыкай прыдуць з успамажэннем, але не з большым, чымсьці, напрыклад, для польскай нэндзы. З палякамі не хоча мець бізнэс Захад, бо багаты трымаецца здаля ад басотніка (якая ж з ім можа быць здзелка?). З беларусамі перспектывы на гешэфт беспараўнальна горшыя: акрамя хворай эканомікі ў іх, яны і самі небяспечна заражаны выпраменьваннем. Наймацней сталінская са сталінскіх рэспубліка найгучней пракляне бальшавізм. Бы кавалера здраджаная нявеста...

Я ўсё не магу ўявіць рэакцыю так званага простага чалавека ў вушанцы на новую палітычную сітуацыю ў бацькаўскім краі. Таталітарызм цяжка пакалечыў яго духоўнасць, што найбольш выразна бачыцца ў паводзінах дзяцей. Маладая змена нацыі — маральна апустошаная: акрамя грошай мала што яе цікавіць. Якую этыку дае родны дом дзяўчыне або хлопцу? Вера ў Бога зменена ў сакралізаваны камунізм, што закончылася рэцыдывам варварства. Месца пачуцця грамадзянскасці заняў маладушны страх. Асмешана сумленнасць і акуратнасць, узвышана лахманства ды парабкоўства. Беларускі патрыятызм закідалі гразёю, пераўтварылі яго ў сінонім здрады ды подласці. Аганьбавана гісторыя Беларусі ўсхваляннем яе катаў і забойцаў — Івана Грознага, Пятра Вялікага, Суворава, Мяснікова, нават Мураўёва-Вешальніка. А следам за царскай — і сталінская навалач нягорш пагрэла рукі на трагедыі нашых прадзедаў і бацькоў (у адных усяго Курапатах укладавілі энкавэдзісты каля трохсот тысяч чалавек, старых і малых!).

Феномен Беларускага Народнага Фронту „Адраджэнне“ ў тым, што ён увогуле з'явіўся! У такім перастраляным ды зняверанымграмадстве! Сярод татальнага алкагалізму, зладзейства, падкупнасці! У гэтым гіганцкім канцэнтрацыйным лагеры, у якім было жудасна і падумаць пра нешта не так, як „газета пісала“. Яшчэ пры раннім Гарбачове актуальным здаваўся верш Міхаіла Лермантава „Прощай, немытая Россия, страна господ, страна рабов, И вы, погоны голубые, И ты, послушный им, народ“.

Дайшоў да мяне погалас, што на мінскім магістраце нехта павесіў бела-чырвона-белы нацыянальны сцяг, скінуўшы савецка-беларускі чырвона-зялёны (міліцыя мела работы, і сышчыкі). Чуе маё сэрца, што хутка гэта не будзе забароненым.

(Працяг будзе)

## СА СВЯТОЙ ВАДОЙ

**(Працяг са стар. 1)**

**„Н“.:** Ці многа святароў даязджае ў свае прыходы з Беластока?

**М.К.:** Наколькі мне вядома, у Тапілец даязджае а. Анатоль Кірык, у Чорную Беластоцкую — вікарны з Усіхсвяцкага прыхода на Выгодзе, у Вярхлессе — вікарны з Сабора Мікалай Падолец... У Тапільцы — маленькая парафія. У Вярхлессі — прыход малады, дзейны. У Чорнай Беластоцкай — прыход малады; самі сабралі грошы і пабудавалі прыгожую царкву.

**„Н“.:** Як вы заўважаеце, моладзі многа ў царкве?

**М.К.:** У асобных прыходах, ці агульна? У Беластоку моладзь прыходзіць у царкву. Я заступаў свайго калегу са Святадухаўскага прыхода на Антонюку, вёў навучанне рэлігіі. Вельмі многа прыходзіць і дзяцей, і дарослай моладзі. Асабліва многа верных у царкве ў святочны дзень. Цяпер моладзь ужо арганізавана. Гэта дзякуючы працы нашага архіепіскапа Савы. Відаць эфекты. Арганізуюцца і паломніцтвы, і лагеры для школьнікаў... Апошнім часам моладзь гуртуецца пры царкве. Ёсць надзея, што такія прыходы будуць паўлічвацца.

**„Н“.:** Вашы прыхаджане — хто яны?

**М.К.:** Частка — пераселены з Бяшчадаў. Яны гавораць паўкраінску. У Элку многа з Бельшчыны. Яны гавораць на мове, прывезенай з дому, на якой вучыліся. Але большасць гаворыць па-польску. Я сам паходжу з-пад Орлі — з Пашкоўшчыны.

**„Н“.:** Чаму ёсць такія, што гавораць: „Мы — праваслаўныя палякі“?

**М.К.:** Палякі... Ну, ведаеце... Хто мы? Палякі ці беларусы?



 

# МЕНШ СЛУЖБІСТАСЦІ, А БОЛЬШ РОЗУМУ

У сувязі з наплывам да міністра адукацыі інфармацыі аб няправільным разуменні некаторых дырэктараў школ пункту 2 пастановы аб арганізаванні ў падставовых школах і агульнаадукацыйных ліцэях навучання роднай мовы для дзяцей няпольскай нацыянальнасці, у нашым выпадку, датычыць гэта беларускай мовы (Дз. уст. М Е Н № 11 паз. 69 з 1988 года), дац. д-р габ. Анджэй Яноўскі, падсакратар стану ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі, накіраваў ліст № ДКО-0146-4/90 ад 3 мая 1990 г. да куратара асветы і выхавання ў Беластоку, у якім просіць перадаць падначаленым яму школам наступнае:

1. Заяву вучня аб навучанні роднай мовы (у нас — беларускай) дырэктар прымае адзін раз ва ўсім цыкле навучання — пры запісе вучня ў школу. Дэкларацыя ў гэтай справе прымаецца ад бацькоў або праўных апекуноў у вуснай форме, а пры немагчымым непасрэдным кантакце з бацькамі — у пісьменнай форме.

Нельга патрабаваць ад бацькоў штогадовай дэкларацыі ў гэтай справе. Першая дэкларацыя абавязвае школу і правяраючыя яе органы арганізаваць навучанне роднай мовы (беларускай) аж да часу заканчэння навукі ў гэтай школе або адмовы бацькоў ад навучання гэтай мовы.

2. Урокі роднай мовы (беларускай) вучня няпольскай нацыянальнасці павінны быць змешчаны ў тыднёвым раскладзе заняткаў так, каб забяспечыць добрае ўспрыманне ведаў, а таксама ў часе, адпаведным для дзяцей і бацькоў.

3. Неабходна даць магчымасць нацыянальным меншасцям выкарыстоўваць школьны будынак і іншыя аб'екты асветы для культурна-асветнай дзейнасці, калі гэта не перашкаджае ў вядзенні гэтымі пляцоўкамі сваёй статутовай дзейнасці.

Адначасова падсакратар стану выказвае надзею, што супрацоўніцтва з аддзеламі таварystваў, якія гуртуюць грамадзян няпольскіх нацыянальнасцяў, дасць магчымасць поўнасцю выконваць ратыфікаваныя Польшчай паразуменні па справах правоў нацыянальных меншасцяў у падтрымоўванні моўнай, культурнай і этнічнай тоеснасці.

Гэты ліст Кураторыя асветы і выхавання перадала ўсім дырэктарам школ, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы, да ведама і да выкарыстоўвання.

Друкуючы ў „Ніве“ змест гэтага лісту, рэдакцыя імкнецца шырэй пазнаёміць з ім бацькоў, настаўнікаў, дзеячаў, членаў БГКТ, каб занадта службістыя дырэктары школ не збіралі ў свае шуфлядкі непатрэбную макулатуру ў выглядзе штогадовых дэкларацый ад бацькоў. Безумоўнае выкананне гэтага прынцыпу будзе спрыяць лепшай атмасферы ў навучанні беларускай мовы і лепшаму арганізацыйнаму парадку ў працы школы.

Адначасова ва ўмовах, калі ліквідуюцца па вёсках клубы, святліцы і бібліятэкі, школы могуць стаць цэнтрамі асветы і культурнага жыцця. Згодна са зместам гэтага пісьма, вясковыя гурткі БГКТ атрымоўваюць магчымасць карыстацца школьнымі будынкамі для арганізавання сходаў, працы мастацкіх калектываў і для іншай шырэйшай культурна-асветнай дзейнасці. Такім чынам, школа і БГКТ могуць супольна весці культурна-асветную дзейнасць сярод моладзі і дарослага грамадства. Усё залежыць цяпер ад актыўнасці і аператыўнасці ўлад БГКТ, дзеячаў і гурткоў.

Лічу, што ў новых грамадска-гаспадарчых умовах неабходна склікаць надзвычайны з'езд дэлегатаў БГКТ, каб змяніць статут і напрамкі дзейнасці згодна з сучаснымі спадзяваннямі і патрэбамі беларусаў у Польшчы.

**Янка Зенюк**



*Архіепіскап Сава накрывае галаву М. Каліну каміляўкай (Аўгустаў, 1985 г.).*

Нашы бацькі, нашы дзеды-прадзеды — тут былі. Тут мы нарадзіліся, раслі. Мы — беларусы, жывем у Польшчы...

**„Н“.:** Паляк, бо жыве ў Польшчы. Амерыканец — бо жыве ў Амерыцы. Ці гэта таму, што нашыя людзі да гэтага не прыкладаюць вялікай увагі? Ці сапраўды так і думаюць? Можа, баяцца вылучацца?

**М.К.:** Я думаю, што прычына ў тым, што на працягу многіх гадоў беларусы былі ў меншасці, іх праследавалі за іншасць, яны ўвесь час баяліся і далей баяцца „выхіляцца“, лічачы, што, калі не будуць голасна выказвацца, хто яны, ніхто ім не будзе дакучаць, і яны будуць жыць спакойна.

**„Н“.:** „Мая хата з краю...

**М.К.:** ...я нічога не знаю.“ Я думаю, што беларусы — гэта народ нацыянальна слабахарактарны, у адрозненні, напрыклад, ад украінцаў, якія за сваё пойдуць у агонь. А беларусы? Беларуса як назавуць, так яму і добра. Пакуль няма свядомасці... Няўжо беларусы такое ў крыві маюць, што за сваё не ўмеюць біцца?

**„Н“.:** А чаму, як думаеце, многа маладых так лёгка пераходзіць на каталіцызм? Ці для іх няма вялікай розніцы? Ці гэта ад бацькоў залежыць? Ці дрэнна праводзіцца евангелізацыйная праца ў царкве? А, можа, справы рэлігіі яны лічаць няважнымі для сучаснага чалавека?

**М.К.:** Гэта вельмі складаная праблема. Прычын, якія ўплываюць на тое, што людзі лёгка мяняюць сваю веру, без роздуму, многа. Па-першае, абыякавасць бацькоў да гэтых спраў і слабое выхоўванне дзяцей у духу праваслаўя. Можа, бывае, дрэнна вядзецца духоўная праца ў прыходах з моладдзю адносна справы, хто мы... А ёсць яшчэ такая прымаўка: „Любоў — не картошка...“ Калі чалавек вельмі закахаецца, можа страціць самасвядомасць, самакантроль, і тады пойдзе ўсюды за каханай асобай. Я нядаўна ў Элку даваў шлюб хлапцу-каталіку, які пайшоў за дзяўчынай у праваслаўе. У мяне ў Сувальскім прыходзе ёсць такая сям'я: маці — каталічка, бацька — праваслаўны. І яны ўсё жыццё пражылі мірна, у любові. Сыны прыходзілі з бацькам увесь час у царкву. Пажаніліся з каталічкамі. Я кажу аднаму: „Янэк, што ты думаеш, як вы будзеце жыць?“ А ён кажа: „Мае бацькі таксама рознай веры, а як пражылі жыццё! А чаму ў нас мае быць горш?“ Хлопцы мелі добры прыклад у сям'і. Усё залежыць не ад таго, якой ты веры, а ад таго, які ты чалавек. А ў кожнага, хто жэніцца ці выходзіць замуж — надзея, што ўсё будзе добра, а пасля бываюць праблемы. Жыццё ж — складаная справа.

Гутарыла **Міра Лукша**



*„Ад 1983 года адзін шлюб трапіўся ў Сувальскай царкве.“ (На аналое ляжыць ікона, якую нядаўна ўкралі).*

## ТРАЧУК АБАРАНЯЕ ПАЗНЯКА

Пачытаўшы ў „Ніве“ ад 2 верасня чарговую ўжо палеміку Трачука са мною, у гэты раз супроць маёй публікацыі „Халтура на беларускія тэмы“, я зразумеў, што дыскусія з гэтым чалавекам, аднак, пазбаўлена сэнсу. Я толькі спачуваю прафесару Тэлесфару Пазняку, што такі крыкун набіваецца ў яго абаронцы. Відаць, якая справа, такі і адвакат.

**Сакрат Яновіч**

## ПАПРАЎКА

У падрыхтаваных мною публікацыях да стагоддзя з дня нараджэння вядомага беларускага паэта-рамантыка, ксяндза Казіміра Сваяка (сапр. Канстанціна Стаповіча — 1890—1926), „Польска-беластоцкі перыяд. (Паводле дзённіка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“)“ было дапушчаных Вамі некалькі памылак, важнейшыя з якіх хацеў бы я тут папpавіць.

І так, у 30 нумары „Нівы“, на 6 старонцы адпаведны сказ у абзацы, які пачынаецца з даты *„13.III.* Улез я ў блуднае кола...“, павінен быць надрукаваны наступным чынам: „Прашу ня шырыць ані песняў, **ані казкаў,** ані дэкламацыяў беларускіх!“ (прапушчана: **ані казкаў**).

У 32 нумары „Нівы“, на 6 старонцы трэці абзац у трэцім радку павінен пачынацца так: *„24.VIII.* Ад рана сход сялян у справе школ“. На 7 старонцы ў другім радку адпаведны абзац павінен пачынацца наступным чынам: *„24.V.* Май. Салавейка штоноч спаць не даець думкам збуджаным“. У трэцім жа радку на гэтай старонцы адпаведны сказ у абзацы з датай *30.V.* згодна з арыгіналам павінен быць надрукаваны такім чынам: „Няма парадку ў ідэях, няма ў розуме, няма ў волі сілы“.

Адну памылку заўважыў я і ў 34 нумары „Нівы“. Перадапошні абзац трэцяга радка павінен пачынацца так: *„20.II.* Сёння кончыў хроніку касцёла свайго“ замест надрукаванага — „кончу“.

Адначасна хачу пахваліць рэдакцыю за выдатна надрукаваныя мае дзве першыя публікацыі пад гэтым жа загалоўкам у 26 і 28 нумарах „Нівы“, у якіх я практычна не знайшоў ніводнай памылкі.

**Юры Трачук**

# ШУКАЮ ТОЕ, ШТО ЗГУБІЛА

**(Працяг са стар. 1)**

та і 800 кг бульбы. Гэта былі гэтак званыя абавязковыя пастаўкі. А ўсё ж гэта, ды яшчэ на пракорм сваёй сям'і на ўвесь год, трэба было Веры з мамай перацягаць на ўласных плячах. Тады яшчэ ж ніякіх машын не было!

Палягчэла, калі знеслі абавязковыя пастаўкі. Можна было падатак аплачваць грашыма. Ды і сястра Надзя з братам Шурыкам падраслі.

У 1963 годзе Веру запрасіла прыехаць у Аўстралію родная цётка, якая выехала туды шмат гадоў раней. Тады ўжо Вера магла пакінуць гаспадарку на сястру і брата. Ды і маці падтрымала дачку:

— Паедзь, паглядзі свету. Што мы тут з табою бачылі? Адно гора.

І Вера паехала. 12 сакавіка 1964 года маці праводзіла яе на самалёт у Варшаву.

— Першы раз тады я ехала поездам, — успамінае цётка Галена, — вельмі баялася. Не, праўда, — папраўляецца. — Калісьці ехала яшчэ поездам, мабыць, недзе перад 20-ым годам, у бежанстве. Але што гэта былі за паязды?

Аўстралія сустрэла беларускую дзяўчыну прыязна. Вера трапіла ў свойскае асяроддзе, знайшла працу. Прызвычаілася. Жыццё наогул складалася шчасліва. Праз нейкі час пазнала ў Мэльбурне беларускага хлопца. Шлюб бралі ў беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. На памяць засталася прыгожая фатаграфія: пара маладых у традыцыйным шлюбным адзенні, яна — у белі з іконай Багамацеры, ён — у чорным касцюме з іконай Хрыста. Абедзве іконы — у прыбранні багатых ручнікоў з цудоўнымі белымі карункамі.

Вера, па натуры прылюдная і сардэчная, вельмі хутка ўвайшла ў аўстралійскае асяроддзе беларусаў. Пачала спяваць у беларускім ансамблі „Каліна", уключылася ў грамадскую дзейнасць царквы. Цяпер у Веры ў Мэльбурне добра абсталяваны дом, сардэчны муж, абое ўжо на пенсіі, а лета праводзяць у летнім доміку на беразе акіяна.

У Аўстраліі часта надараецца аказія беларусам паказаць сваю нацыянальную іншасць. Існуюць традыцыйныя народныя святы, у якіх і беларусы выходзяць на вуліцы ў сваіх каляровых вышываных уборах. Беларусы ўдзельнічаюць у фестывалях, называных там Мумба.

Ад 1949 года аўстралійскія беларусы штогод вельмі ўрачыста святкуюць дзень 25 сакавіка — гадавіну ўтварэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Усё праваслаўе вельмі ўрачыста адзначыла тысячагоддзе Хрышчэння Русі, а ўжо традыцыйным святам беларусаў сталі з'езды беларусаў Аўстраліі. Кожны з'езд — гэта свята, гэта сустрэчы з сябрамі, супольныя свойскія абеды, родныя песні, размовы і ўспаміны.

Не думаю, каб жывучы ў Рыбаках, сярод сваіх і на роднай зямлі, Вера вышывала б сабе блузкі і фартухі ў народныя ўзоры. А там, далёка ад дома, такія Верыны здольнасці аказаліся вельмі прыдатнымі. Вышывала і сукенкі, і абрусы, і ручнікі. З прыемнасцю на традыцыйныя святы пякла для гасцей бліны, бабкі, рабіла свойскія каўбасы.

У Мэльбурне, дзе жыве Вера, беларусы збіраюцца ў беларускай аўтакефальнай царкве. Усе пропаведзі бацюшка гаворыць па-беларуску, бо гэта родная мова для ўсіх парафіян. Ды царкоўным гімнам стала песня на словы Наталлі Арсенневай „Магутны Божа, уладар сусвету..." Ёсць у іх і свая „беларус-



*Вера Шэйпак са сваёй старэнькай матуляй — Галенай Хлябіч ля роднай хаты ў Рыбаках.*

## ЮР. МОНВІД
# СТРАШНЫ ГОД

**Фрагменты ўспамінаў Францішка Аляхновіча**

*Францішак Аляхновіч нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні, у сям'і нашчадкаў дробнай беларускай шляхты. Вучыўся ў гімназіі, але яе не скончыў, бо быў надта ж летуценнік і „неслух". Пад прэсіяй родных запісаўся ў хіміка-тэхнічную школу і тую таксама не скончыў. Мары хлопца былі скіраваны на паступленне ў драматычную школу, якой у Вільні не было. Была такая ў Варшаве і Кракаве.*

*І вось у 1903 годзе пачынаюцца вандраванні будучага драматурга. Францішак Аляхновіч цэлы год з'яўляецца вольным слухачом кракаўскага універсітэта. У 1907 г. канчыць навуку ў Варшаўскай драматычнай школе. У 1908-м вяртаецца ў Вільню, жэніцца, працуе рэпарцёрам. Тут жа выпускае на польскай мове часопіс-тыднёвік „Perkunas" і ўваходзіць у беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух, заапекаваўшыся разам з А. Бурбісам і А. Пашкевіч-Цёткай арганізацыяй Беларускага тэатра. Доўга аднак яму папрацаваць не ўдалося, бо быў праследаваны расейскімі ўладамі за артыкул у „Пяркунасе". Каб не трапіць пад суд, Францішак Аляхновіч выязджае ў Кракаў.*

*Тры гады ён іграе ў польскіх тэатрах пад псеўданімам Монвід. Засумаваўшы па Радзіме, вяртаецца ў Вільню, дзе адразу ж трапляе на цэлы год у астрог. У турме ён піша сваю першую п'есу „На Антокалі". Пасля былі новыя: „На вёсцы", „Базылішак" і іншыя.*

*У чэрвені 1918 года Францішак Аляхновіч перабіраецца з Вільні ў Мінск, дзе працаваў Дзяржаўны беларускі тэатр. Першая пастаноўка Аляхновіча (п'еса „Бутрым Няміра") паказала ягоны моцны талент. Беларускае грамадства горача вітала таленавітага дэбютанта. Поспех надаў драматургу творчых сілаў. Ён піша новыя п'есы („Чорт і баба", „Страхі жыцця", „Дзядзька Якуб") і стварае ўласную трупу.*

*У 1919 г. пачынаецца ваенная куламеса. Усялякае культурнае жыццё руйнуецца і аднаўленне яго каштуе высілкаў энтузіязму Аляхновіча. У 1922 г. ён пехатою дабіраецца ў Коўню, дзе тады знаходзіўся эміграцыйны ўрад БНР, каб з ягонай дапамогай трапіць у Берлін да Ціішкі Гартнага. Апошні арганізоўваў беларускае выдавецтва, і Францішак Аляхновіч хацеў гэткім чынам навочна дамовіцца аб выданні сваіх п'есаў. Аднак падарожжа ў Германію не адбылося. Літоўская палітычная паліцыя арыштавала Аляхновіча, а затым выслала назад у Вільню.*

*Да 1925 г. Францішак Аляхновіч напісаў гістарычны нарыс „Беларускі тэатр", перапрацаваў п'есу „Манька", якой даў новую назву — „Дрыгва". На гэтай, сямнаццатай п'есе абрываецца творчая праца няўрымслівага драматурга. Прыехаўшы ў Савецкую Беларусь на акадэмічную канферэнцыю, трапляе ён у рукі ГПУ. Затым — Салавецкі канцэнтрацыйны лагер. Цэлых сем гадоў. Вярнуўся на бацькаўшчыну толькі таму, што быў абмяняны на арыштаванага палякамі беларускага пасла Браніслава Тарашкевіча, які потым загінуў ад рук тых самых „вызваляльнікаў".*

*Вярнуўшыся з савецкай катаргі, Францішак Аляхновіч знайшоў сваю сям'ю разбуранай і чужой. Заняцца любімай справай яму не дазволіла бальшавіцкая акупацыя Вільні. І ён мусіў цэлы год хавацца і чакаць... вайны. Новай акупацыі.*

*Вось пра гэты перадваенны год, пражыты ў сховах і распавядаюць успаміны пад назвай „Страшны год". Яны друкаваліся ў часопісе „Новы шлях" па меры напісання. Не закончаны. „Юр. Монвід" — гэта колішні тэатральны псеўданім Аляхновіча.*

*Дазваляю сабе меркаваць, што менавіта гэтыя ўспаміны перапоўнілі „чашу цярпення" бальшавікоў. Трэцяга сакавіка 1944 г. Францішак Аляхновіч быў забіты з-за вугла гэтак званым „партызанам". Сістэма чырвоназорных знішчала перш за ўсё таленты, якой бы зямлі не належалі. Таленты, якія не маглі быць служакамі.*

*Трэба сказаць, што Аляхновіч быў не з тых людзей, якія, адседзеўшы ў бальшавіцкіх лагерах, перанёсшы ўсе магчымыя здзекі з боку „пралетарскай" дзяржавы, працягвалі служыць свайму кату. Прыкладаў таму, на жаль, шмат. Але не такім быў драматург Францішак Аляхновіч. Чалавек па натуры крыху авантурыстычны, ён любіў вольнасць. Адночы зведаўшы астрожнай поліўкі ён ужо не мог даравать сваім крыўдзіцелям, ён іх шчыра ненавідзеў.*

*Як чалавек таксама экспрэсіўны, кіраваны часта чуццём душы, а не розумам, ён вінаваціў у сваіх бедах разам з бальшавікамі і яўрэяў. Усё гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў прапанаваных чытачам урыўках з успамінаў Францішка Аляхновіча.*

**Славамір Адамовіч**

### ІЗНОЎ У ЖЫЦЕ

Мы выйшлі з хаты. Сонца ўжо зайшло. Змяркаецца. Ідзём спакойна дарогай. Там, далей, відаць жыта. Мы азірнуліся. Тут нас ніхто не бачыць. Без слова мы адзін аднаго разумелі. Адзін вомірг — і мы зноў ляжым між каласамі, прытаіўшыся. Тут наш начлег. Тут праляжым да раніцы, а ў ранні — на аўтобус і ў Коўню! Я заявіў свайму кумпаньёну, што далей бадзяцца гэткім чынам і хавацца па начах у жыце я не збіраюся. Гэта не менш небяспечна, як з'явіцца смела сярод людзей, сесці на аўтобус і ехаць. Дык жа ў нас не напісана на ілбе, што мы былі ў Нямеччыне, што спатканне з бальшавіцкай уладай для нас вельмі непажадана і г.д.

Мой камрад быў іншых поглядаў, бо ў яго дакументы былі не ў парадку. Але мусіў са мной згадзіцца. Што яму было іншага рабіць!

Настала ноч. Навучаныя сумным досведчаннем, мы ўжо не засыналі адразу абодва, але па чарзе, паводле гадзінніка. Адну гадзіну дзяжурыў адзін, другую — другі. І ў выніку гэтага, мы абодва не спалі. Апрача таго, мяне пачаў душыць кашаль. Я ўстрымоўваўся, як мага, не мог дыхаць, затыкаў сабе рот хусткай і раптам выбух кашлю вырываўся з грудзей нястрымнай каскадай. Мой суначлежнік злаваўся на мяне, шыпеў, як вужака: „Ціха! Што вы робіце! Нас пачуюць! Дык канец гэта!" — а я не мог кінуць, нягледзячы на свядомасць небяспекі, не мог устрымацца, пакуль не мінуў параксізм кашлю.

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**11. Дзеяслоў — працяг.**

Дзеянне, выражанае дзеясловам, можа быць накіравана або не накіравана на суб'ект. Граматычная катэгорыя, якая акрэслівае адносіны дзеяння да суб'екта — утваральніка дзеяння, называецца **станам**. Адрозніваюцца два станы: **незалежны** і **залежны.**

**Дзеясловы незалежнага стану** абазначаюць дзеянне, не накіраванае на суб'ект. Суб'ект выступае ў сінтаксічнай функцыі дзейніка: Высока ў бязвоблачным небе **плыве** яркае сонца, шчодра **лье** на зямлю сваю цеплыню і святло. (І.Н.), Спачатку спелыя суніцы **заружавелі** па лясах, за імі следам і чарніцы **закрасавалі** ў верасах. (Гл.).

**Дзеясловы залежнага стану** абазначаюць дзеянне, накіраванае на суб'ект. Суб'ект выступае ў сінтаксічнай функцыі дапаўнення ў форме творнага склону. Такі творны называецца **творным дзейнага прадмета (творным суб'екта)**; Хмурны хваёвы лес чуць **заслаўся** сінім дымком туману. (К-с), Напоўніць лес птушыны свіст, травою луг **акрыецца**. (К-с).

Дзеясловы залежнага стану ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў пры дапамозе постфікса **-ся**; параўн.: Рабочыя **будуюць** дом — Дом **будуецца** рабочымі. Суб'ектам дзеяння з'яўляюцца **рабочыя**, а аб'ектам дзеяння — **дом.** У першым сказе суб'ект выступае дзейнікам у назоўным склоне, а аб'ект — прамым дапаўненнем у вінавальным склоне. У другім сказе суб'ект выступае дапаўненнем у творным склоне, а аб'ект — дзейнікам у назоўным склоне.

Дзеясловы выражаюць або закончанае дзеянне, або незакончанае. Граматычная катэгорыя, якая акрэслівае адносіны дзеяння да яго мяжы, закончанасці ці незакончанасці, называецца **трываннем.** Выдзяляюцца два трыванні: **закончанае** і **незакончанае.**

**Дзеясловы закончанага трывання** абазначаюць дзеянне, якое закончылася або закончыцца: **адмарозіць, замкнуць, намаляваць, прынесці, расказаць.** Яны маюць форму прошлага і будучага простага часу: **адмарозіў, адмарожу; замкнуў, замкну; намаляваў, намалюю.**

**Дзеясловы незакончанага трывання** абазначаюць дзеянне, якое не закончылася, якое працягваецца або паўтараецца: **адмарожваць, замыкаць, маляваць, прыносіць, расказваць.** Яны маюць форму прошлага, цяперашняга і будучага складанага часу: **маляваў, малюю, буду маляваць; расказваў, расказваю, буду расказваць.**

Суадносныя пары трыванняў дзеясловаў утвараюцца пры дапамозе:[1]

— суфіксаў: **-ва-** (адгадаць — адгадваць), **-іва-** (адыграць — адыгрываць), **-оўва-** (параўнаць — параўноўваць), **-а-** (ачысціць — ачышчаць),

— прэфіксаў: **а- (аб-)** (тынкаваць — атынкаваць), **вы-** (лячыць — вылечыць), **з- (с-, са-)** (касіць — скасіць), **на-** (пісаць — напісаць), **па-** (снедаць — паснедаць), **пад-** (лічыць — падлічыць), **пера-** (зімаваць — перазімаваць), **пра-** (чытаць — прачытаць), **пры-** (ехаць — прыехаць), **раз-** (рэзаць — разрэзаць), **у-** (бачыць — убачыць), **уз-** (радавацца — узрадавацца),

— чаргаванне ў аснове нуля гука з гукамі **і (ы)**: адабраць — адбіраць, назваць — называць,

— змены месца націску: раск'ідаць — раскід'аць, рассы'паць — рассыпа'ць,

— суплетыўных асноў: **легчы — класціся, узяць — браць.**

Дзеясловы са значэннем руху могуць абазначаць рух у адным напрамку **(дзеясловы лінейнага руху, някратныя)**: **бегчы, гнаць, ісці, ляцець, плыць,** або рух накіраваны ў розныя бакі **(нелінейныя, кратныя** або **маторна-кратныя дзеясловы): бегаць, ганяць, хадзіць, лятаць, плаваць.**

Ад някратных дзеясловаў могуць утварацца дзеясловы закончанага трывання: **бегчы — адбегчы, забегчы, збегчы, пабегчы, падбегчы, прыбегчы, узбегчы.** Усе яны з'яўляюцца асобнымі словамі, а не суадноснымі парамі трывання.

Ад кратных дзеясловаў могуць утварацца дзеясловы незакончанага трывання: **бегаць — збягаць, падбягаць, прыбягаць, узбягаць** і дзеясловы закончанага трывання: **бегаць — адбегаць, збегаць, пабегаць.**[2] Усе яны таксама маюць іншае значэнне і таму з'яўляюцца асобнымі словамі.

З трываннем цесна звязаны спосабы дзеяслоўнага дзеяння. **Спосабы дзеяслоўнага дзеяння** — гэта семантычныя групы дзеясловаў, якія выдзяляюцца на аснове змены значэння дзеяслова ў адносінах фазіснасці (пачатку, канца дзеяння), інтэнсіўнасці (узмацнення, аслаблення дзеяння), кратнасці (шматкратнасці, перарывістасці).[3]

Выдзяляюцца наступныя семантычныя групы:

— дзеясловы са значэннем пачатку дзеяння з прэфіксамі **за-, па-, уз-: засвяціць, падзьмуць, узрадавацца,**

— дзеясловы з абмежаваным значэннем з прэфіксамі **па-, пра-, пера-: пачытаць, прасядзець, пераначаваць** паказваюць, што дзеянне працякае ў пэўны прамежак часу,

— дзеясловы з выніковым значэннем з прэфіксамі: **а- (аб-), ад-, вы-, да-, з- (с-), за-, на-, па-, пад-, пра-, раз-: асядлаць, адмыць, вычысціць, дачытаць, зляпіць, зачыніць, нарысаваць, набяліць, падлічыць, прачытаць, разрэзаць,**

— дзеясловы аднакратнага значэння з суфіксамі **-ну-, -ану-: крыкнуць, крутануць,**

— дзеясловы мнагакратнага значэння з прэфіксам **папа-: папабегаць, папачытаць,**

— дзеясловы са значэннем перарывістасці дзеяння з прэфіксамі **па-, уз-** і суфіксам **-ва-: патрэскваць, узмахваць,**

— дзеясловы са значэннем размеркавальнасці дзеяння з прэфіксамі **па-, пера-: паабіваць, пералушчыць,** паказваюць, што дзеянне адбываецца ў многіх месцах або на многіх аб'ектах.

---

[1] Глядзі: М.Ц. Кавалёва, А.К. Юрэвіч, Дзеяслоў, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага Мінск 1980, с. 147—148.

[2] Там жа, с. 149—150.

[3] Там жа, с. 150—152.




**ВІТА,** 23 гады, кіяўлянка. Вельмі прыгожая, стройная, хаця крышку пульхная. Энергічная, разбітная, адукацыя сярэдняя, працуе ў гандлі. Пазнаёміцца з кемлівым, сімпатычным, сумленным хлопцам. Адпіша на кожны ліст на рускай ці ўкраінскай мовах.

А-1

**ДОБРЫ,** 29 гадоў. Жыву на беластоцкай вёсцы, маю невялікую гаспадарку, крыху мацы. Высокі, статны, русавалосы, піўнавокі. Спакойны, разважлівы, люблю прыроду. Шукаю сумленнай, сімпатычнай, добрай дзяўчыны, якой хацеў бы даць шчасце.

А-2

**МІЛКА.** Хачу пазнаёміцца з беларусам з Захаду, добрым, сумленным, інтэлігентным кавалерам.

А-3

**ПЯТРО,** 25 гадоў. Высокі, светлавалосы. Вышэйшая адукацыя. Сумленны, пачцівы, уражлівы. Пазнаёміцца з дзяўчынай нематэрыялісткай, сардэчнай і разумнай. Адкажа на лісты таксама па-англійску.

А-4

Чакаем вашых лістаў. Падайце псеўданім, дакладны адрас. Зазначыце, ці за карэспандэнцыяй да вас прыйдзеце ў рэдакцыю, ці выслаць вам яе дахаты.

Забяспечана абсалютная сакрэтнасць!

**(лук)**

# „АЎРОРА" —ВЫДАТНАЯ ГАСПАДЫНЯ!

**Чытачы „Нівы" ведаюць Ірыну Лукшу („Аўрору") з Семяноўкі як аўтара цікавых замалёвак з жыцця. Дык аказваецца, што яна не толькі выдатны карэспандэнт, але і дасканалая гаспадыня. У выйшаўшай нядаўна з друку „Кухні польскай рэгіянальнай"* падрыхтаванай Ломжынскай выдавецкай афіцынай, знаходзіцца многа рэцэптаў, якія „Аўрора" даслала свайго часу на конкурс на рэгіянальную страву, аб'яўлены рэдакцыяй тыднёвіка „Кантакты" і таварыствам „Стопка". Яе прозвішча падаецца ў спіску 47 аўтараў, змешчаных у кнізе рэцэптаў. Рэдактары „Кухні..." падкрэслілі, што ў кніжцы змешчаны „1170 рэцэптаў самых лепшых гаспадынь у краіне".**

**І што ж наша „Аўрора" нам прапануе? З супоў: булёны — грыбны, агурочны, з грыбамі і малаком (на стар. 49—50), фасолю з кашай (55), гарох з фасоляй (56), свінскую юшку (58), каплун, капусту рэдкую забеленую і капусту з сушанымі грыбамі (59), квасы — шчаўёвы і бульбяны (66). З мясных страваў наша карэспандэнтка прапануе каровіну юшку (132), з бульбяных — ляскаўку (247), галушкі з макам, маслам (253) і скваркамі (254), праснакі (255), таўканіцу з гарохам, бульбу з льняным семем (256), а з дамовых прадуктаў — кіслую капусту (395—396), кіслыя агуркі (397), кашанку (404), белую каўбасу (405—406).**

**„Кухню..." яшчэ можна купіць і паспрабаваць падрыхтаваць стравы паводле „Аўрорыных" рэцэптаў. Чытачам жадаю прыемнага апетыту, а Ірыну Лукшу шчыра віншую!**

**Пятро Байко**

---

* **Kuchnia polska regionalna. Mazowsze — Kurpie — Podlasie, Łomżyńska Oficyna Wydawnicza, Łomża 1989.**

# З КРЫМІНАЛЬНАЙ СТАТЫСТЫКІ

12 красавіка г.г. у Беластоку трыццацігадовы Марэк Д. з нажом накінуўся на жанчыну, рабуючы два залатыя пярсцёнкі, завушніцы і амаль паўмільёна злотых. Марэк Д. быў ужо пяць разоў асуджаны за грабяжы. Апошні раз выйшаў з турмы ў снежні мінулага года. Цяпер яго чакае чарговая пабыўка ў „санаторыі".

* * *

19 мая ў Беластоку 23-гадовы Кшыштаф Б., разам з 19-гадовым Яраславам С., напаў на Славаміра С., каб абрабаваць яго. Бандыты знялі з праходжага чаравікі „адзідасы" і электронны гадзіннік.

* * *

8 сакавіка г.г. у Гарадку здарылася сямейная трагедыя. Віктар К., добра падпіўшы, кінуўся да жонкі з металічнай палкай — трубой. У абароне маці сталі два сыны. Адабраўшы ад п'янага металічную палку, жанчына ў злосці і роспачы сама ўдарыла п'янага па галаве. Рана аказалася смяротэльнай. Жанчыну і яе сыноў чакае судовая расправа.

* * *

23 лютага г.г. у Беластоку Андрэй А. разам з двума сябрамі напаў, вымахваючы нажом, на Віктара М. Пабітаму мужчыну хуліганы забралі 70 тыс. злотых і гадзіннік. Цяпер Андрэй А. арыштаваны і абвінавачваецца таксама за крадзеж у аўтобусе і ў тым, што 30 сакавіка ўцёк са следчага арышту.

* * *

У Раённы суд у Бельску паступіла абвінавачванне на Мар'яна Н. (53 гады), які ноччу з 26 на 27 студзеня г.г. разам з двума памочнікамі ўкраў з хлява Яўгена Н. кабылу з усёй вупражжу, а з хлява Сымона А. — каня і цяля. Мар'ян Н. у 1983 годзе быў асуджаны за разбой на 12 гадоў зняволення, але ў сакавіку 1988 года быў выпушчаны варункова.

* * *

Пара рэцыдывістаў Крыстына Д. (39 год) і Генрык К. (29 гадоў) напалі на Язэпа П. у Сямяцічах, каб аграбіць яго. Ніягоднікі білі чалавека па галаве, душылі, пакуль той не аддаў усе грошы, якія меў. Аказалася іх 14.000 зл. Рэцыдывісты таксама былі выпушчаны з турмы варункова. Цяпер імі зноў заняўся пракурор.

* * *

На 7 гадоў турмы асудзіў Ваяводскі суд у Беластоку Уладзіміра Д. і Аляксандра С. за нападзенне з нажом на Мікіту Л., каб абрабаваць яго. Злачынцы забралі каля паўмільёна злотых і дарагі гадзіннік.

# ШУКАЮ ТОЕ, ШТО ЗГУБІЛА

**(Працяг са стар. 7)**

коліцы, былі на заліве, памянулі добрым словам залітыя вадою беларускія вёскі. Трактары бязлітасна перапаласавалі колямі перакапаны луг колішняй даліны Нарвы. Засыпаным аказалася старое рэчышча, дзе з маленства праседжвала Вера.

— Любіла я гэты куточак. Колькі разоў у думках і ў сне тут бывала! А цяпер вось хаджу тут, шукаю тое, што згубіла, і знайсці не магу, — уздыхнула Вера, калі мы з ёю сышлі да заколіны на старым поплаве.

Згубіла Вера тут свае дзіцячыя мары, пакінула частачку сваёй душы, і знайсці гэтае ўжо ніхто не зможа.

Такі ўжо наш чалавечы лёс. Куды ён нас закіне, там мы і запускаем карэнні, як усё жывое ў прыродзе.

А бацькаўшчыну ўсё жыццё носім у сэрцы.

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## АСЕННІ ЭЦЮД

**Вераснёўскі цёплы дождзык**
**Па асфальце заскакаў —**
**Без кашулі, басанож —**
**А стаміўся — перастаў.**

**Пакаціў па маставой**
**Гаманлівы ручаёк.**
**З дрэва рыбкай залатой.**
**Да яго зляцеў лісток.**

**Міхась Пазнякоў**



**Фота В. Жушмы**

Ну і выдумшчык наш настаўнік мовы! Прыходзіць на ўрок і замест таго, каб праверыць тых, хто адсутнічае, як гэта звычайна робяць іншыя настаўнікі, раптам кажа:

— Бяда, дзеці. Алфавіт прапаў.

Што сталася ў класе! Шум, гоман наперабой:

— Як прапаў?

— Калі прапаў?

Дырэктар, мабыць, непадалёку быў. Зазірнуў у клас, пацікавіўся:

— Што здарылася?

А яму дружна:

— Алфавіт прапаў!

— А-а-а, — абыякава працягнуў дырэктар і зачыніў дзверы.

Не да алфавіта яму. У школе кацельня на рамонце. Як старшакласнікі кажуць, сезон ацяпляльны хутка, а рабочыя на іншым аб'екце. Не да алфавіта.

Тым часам настаўнік звяртаецца да нас:

— Што рабіць будзем? Прапановы сґае выказвайце.

Сцішыліся ўсе. Патыліцы чухаюць. Думаюць, значыцца. Кожнаму карціць прапанову выказаць. Толькі я спакойны. Навошта думаць? Хіба незразумела, што настаўнік новую

**Аляксей Якімовіч**

## ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

**(Урыўкі з кнігі „Гордзіеў вузел“)**

гульню навязвае? „Каб разварушыць вас“, — як сам аднойчы прызнаўся.

Дый наогул наш настаўнік незвычайнае любіць. Напрыклад, так урок пачынае: „Ахілесава пята для нас — напісанне сачыненняў“. Сказаў — і паўза.

Ну, вядома, знойдзецца які цікаўны, выскачыць наперад:

— А што гэта азначае — ахілесава пята?

— Расказаць?

— Раскажыце, раскажыце!

— Тады слухайце, адкуль пайшоў выраз „ахілесава пята“. Уявіце толькі, што вы не ў класе, не ў дваццатым стагоддзі, а ў Старажытнай Грэцыі. — І давай, і давай распісваць: і пра Траянскую вайну, і пра Ахілеса, якога нібыта яго маці, марская багіня Фетыда, каб зрабіць несмяротным, малым акунула ў свяшчэнную ваду падземнай ракі Стыкс, пасля чаго цела Ахілеса зрабілася непаражальным. Толькі пятка, за якую трымала маці сына, быццам бы засталася адзіным неабаронным месцам. А потым пра царэвіча-траянца Парыса, які пацэліў якраз у гэтую пятку.

Слухаюць аднакласнікі, вушы развесіўшы, не зварухнуцца нават. Адзін я быццам бы і не чую. Караблікі малюю ці ў акно гляджу. Звярок. Ведаю, чаму настаўнік расказвае. Падыходу ў яго гэтакі, хоча, каб у гурток мовазнаўчы запісваліся, каб правілы розныя завучвалі.

Віцька і Міцька, што ў су-

(Працяг на стар. 10)




Танцавальны калектыў „Лянок“ з Кляшчэляў. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Максім Танк**

## КОРМЯЦЬ СЯРГЕЙКУ

Першая лыжка
за маміну ласку,
Другая —
за татавы гушканні — гулі,
Трэцяя —
за бабуліны казкі,
Чацвёртая —
за жалейку дзядулі,
Пятая —
за пеўніка чубатага,
Шостая —
за коціка-дуроніка,
Сёмая —
за жаўрука над хатаю,
А восьмая —
за наша сонца-сонейка,
Дзевятая —
за веснавую раніцу...
Ну вось і каша
ў місачцы канчаецца.

## БАБКА

Ходзіць бабка лесам-гаем
У хусціначку збірае:
Даланясты ліст кляновы —
Хлеб на ім пячы жытнёвы,
А дубовы ліст — для бочкі,
Каб хрумсцелі агурочкі,
А бабоўнік кучаравы —
Каб не страціць смак да стравы,
Ліст малінавы — для чаю,
Што ад кашлю памагае.
Жменьку ядлаўцовых ягад —
Для лячэбных крупель — брагі
Ад дакучлівай ламоты,
Розных там непамыслоты...
Ачаплялася лістамі,
Ягаднікамі, імхамі,
Што, як сядзе ў цень мурожны,
І вавёрка не адрозніць:
Ці то бабка каля сцежкі,
Ці пянёк, ці сыраежка?

**Рыгор Барадулін**

## БАСАЛАПКІ

У адным жывуць двары
Тры Рыжулі,
Тры сястры.

Неяк раз
Абулі кошкі
Басалапкі —
Басаножкі,
Бо за ножкі,
Бо за лапкі
Можа ўцяць
Барбос з-за лаўкі.

Злосна муркалі
Рыжулі,
Тэпці мулкія
Разулі —
Басанож
Яно ж
Цішэй
Падкрадацца да мышэй!

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

## ЧОРТ У ВІХРЫ

Гэта было ўлетку, якраз каля макавея. У нас вырасла вельмі добрая атава на поплаве. Дзядзька памог мне скасіць такі добры кусок. Накасілі мы, можа, вазоў са тры вельмі пахучага сена. Было добрае надвор'е. Сенца высахла, аж трэцца. Забраў я жанчын, і пайшлі мы грэбсці тое сена. Згрэблі перш у валы і толькі пачалі класці ў копы, аж прыходзіць Сцяпан Дазорцавых закурыць люльку. Ён, бачыце, згубіў крамяньчык, і не было чым выкрасаць агню. Убіў ён граблі ў зямлю, паклаў у люльку тытуню дый пачаў красаць агонь. Тым часам жанчыны злажылі тры ці чатыры капы сена дый кажуць:

— Ой, зірнеце вы толькі на захад, што гэта там такое! Мабыць, будзе дождж.

Азірнуліся мы, аж на захадзе чорная хмара, бы клубок, так і коціцца на нас, так і расце. Выбілі мы люлькі ды хутчэй кінуліся памагаць жанчынам класці копы. Дык то скажэце, не паспелі мы злажыць і аднае капы, як хмара завалакла ўсё неба. Раптам закруціў віхор, схапіў нашыя копы, падняў увышкі ды давай церусіць.

Тады Сцяпан Дазорцавых барзджэй адвязаў ад пояса свой канчаты нож ды як шыбане ў самы віхор, дык чорт толькі пісную, а віхор невядома куды і дзеўся, толькі нашае сена падае ўніз, дзе на зямлю, дзе завісае на дзерава. Стаім мы ды толькі дзівімся, што гэта такое. Вось упала дадолу ўсё сена. Паказалася сонейка. Зірнулі мы на неба, аж там аніводнага воблачка. Тагды Сцяпан і кажа:

— Мабыць, я забіў ліхога. Памажэце шукаць майго нажа.

Кінулі мы граблі ды давай шукаць нажа. Доўга шукалі мы, амаль спаўзалі ўсю сенажаць, нарэшце я знайшоў нож на купіне.

— Хадзі сюды, Сцяпане, — кажу я, — зірні, што тут робіцца.

Падышоў Сцяпан туды. Зірнулі мы, ды аж спужаліся. На купіне ляжыць вужака, перарэзаная пасярэдзіне нажом. Яна яшчэ трапяталася. А канчаты нож з разгону аж у зямлю ўбіўся войстрым канцом. Узяў Сцяпан нож, аж на ім яшчэ відаць кроў.

— Гэта не вужака, — кажа Сцяпан, — а сам ліхі, што хацеў раскідаць сена.

Дык вось, мае вы саколікі, гэта я сам бачыў на свае вочы.

**(З кнігі „Бяздоннае багацце")**

# ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

**(Працяг са стар. 9)**

седнім доме жывуць, папярэдзілі мяне: „Заінтрыгаваць вас хоча".

Хоць Віцька і Міцька ў шосты клас ходзяць, а я ўсяго ў пяты, аднак і без іх скумекаў, што да чаго. Пятрашку Алеся не правядзеш. Патрэбны мне нейкі мовазнаўчы гурток! І без яго пражыву. Больш вольнага часу застанецца. Каб у футбол згуляць, каб кінафільм паглядзець, каб з Віцькам і Міцькам на вуліцы сустрэцца.

А аднакласнікі, як адзін, у гурток запісаліся. Дэвіз прыдумалі: „Без граматыкі не вывучыш і матэматыкі". І сімвалы. Ажно тры: пчала, падкова і якар. Пчала, маўляў, — сімвал працавітасці, падкова — сімвал шчасця, якар — сімвал надзеі. Глупства. Самае звычайнае глупства. Калі захачу, без сімвалаў на тройку выцягну. Хоць за гэтую тройку часам перападае дома, але затое Віцька і Міцька паважаюць мяне.

— Ну як? Не паддаешся акадэміку? — звычайна пытаюцца яны, называючы між сабою „акадэмікам" настаўніка.

— Будзьце спакойныя! — салютую рукою. — Не паддамся.

Калі шчыра прызнацца, дык часам вабіць да іх, да аднакласнікаў, у гурток. Асабліва тады, калі за віктарынамі, гульнямі іхнімі паназіраеш. Быццам штурхае штосьці: „Запішыся, запішыся. Ці ж ты горшы за іншых?" Ды не. Не паддаюся спакусе. Трымаю слова.

Наша неразлучная тройка — Віцька, Міцька і я — летам яшчэ дала слова ні ў якія гурткі не запісвацца. Ні ў якія, **толькі ў секцыю футбола.**

Маім аднакласнікам не даспадобы гэта. Аленка Анішчык нядаўна заявіла:

— Ты чаго, Пятрашка, нашага любімага настаўніка падводзіш?

Дзівачка, дый толькі.

— Калі ён для вас любімы, — кажу, — то і любіце на здароўе. А я пры чым?

— Ды брыдка нам перад настаўнікам, што ты з тройкі на двойку перабіваешся, — папракнуў Мікола Апановіч, староста нашага класа.

— Віцька-Міцька яму кампанія. Давядзе яна яго. Давядзе, — укалола Аленка.

Здагадаўся, што сказаць хацела. Да міліцыі, маўляў, давядзе. Папракнула, бо прыходзілі ўжо ў школу з міліцыі. Было б з-за чаго. Неяк чужы мотаровар узялі, каб пакатацца. Не ад'ехаліся далёка. Міліцыя затрымала. Віцька і Міцька ў адзін голас: „Мы не бралі. Пятрашка браў." Няхай Пятрашка. Пагадзіўся я, хоць крыху і несправядліва атрымалася. Віцька мотаровар узяў. Ды не захацелася мне сябра падводзіць. Пагадзіўся з усім: „Я ўзяў. Я падбіў іх катацца".

Бацьку штраф далі, а мне ад бацькі папала ды яшчэ ў школе разбіралі. Але нічога. Сцярпеў. Галоўнае — сябра не выдаў, абараніў. І Віцька з Міцькам сталі на мяне глядзець як на дарослага.

**(Працяг будзе)**

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(Да 500-годдзя з дня нараджэння)**

**— 10 —**

Як вядома, улетку 1509 года польскі кароль і вялікі князь літоўскі Зыгмунт I Стары, каб падпісаць умову аб дружбе з дацкім каралеўствам, пасылаў у Капенгаген спецыяльную дэлегацыю. Відаць, як мяркуюць гісторыкі, Скарына быў уключаны ў гэтую дэлегацыю і, магчыма, пасля знаходзіўся як высокаадукаваны чалавек, доктар філасофіі на сакратарскай пасадзе ў дацкага караля...

І вось 5 лістапада 1512 года ў царкве святога Урбана сабралася калегія „найслаўнейшых дактароў мастацтваў і медыцыны" Падуанскага універсітэта, каб вырашыць пытанне аб допуску да экзаменаў на ступень доктара медыцыны Францішка Скарыну.

Выступаючы, намеснік кіраўніка калегіі Мусаці адрэкамендаваў Скарыну як „вельмі вучонага, але беднага юнака, які ўжо мае ступень доктара мастацтваў і які прышоў сюды з найдалейшых зямель, размешчаных за чатыры тысячы рымскіх міль і нават больш".

З цікаўнасцю разглядалі члены калегіі Францішка, калі на іх запрашэнне той увайшоў у залу і вельмі сціпла і ветліва папрасіў іх дазволіць яму трымаць экзамен бясплатна.

Бо атрыманне доктарскай ступені вымагала тады вялікіх грошай. Той, хто здаваў экзамен, нёс вялікія страты.

Па-першае, ён абавязаны быў справіць вопратку ўсім галоўным удзельнікам гэтай урачыстасці, па-другое, падарыць залатыя пярсцёнкі біскупу вікарыю, старшыні і ўсім дактарам калегіі. Па-трэцяе, за яго кошт ладзіўся дарагі банкет...

Вядома, атрымаўшы ступень доктара, навуковец адразу ж як бы пераходзіў у вышэйшае саслоўе грамадства. Ён мог прысутнічаць на пасяджэннях урада. Яму ўжо не трэба было плаціць падаткаў, ён вызваляўся ад звычайнай вайсковай службы, а правініўшыся, падлягаў асобнаму суду, і яго не можна было катаваць.

Але ж каб і атрымаць такую ступень, патрэбны быў не толькі розум, але, як бачым, і багатая кішэнь.

І можна меркаваць, якое моцнае ўражанне зрабіў на ўсіх Францішак Скарына. Усе члены калегіі пры галасаванні апусцілі шары ў чырвоную вазу. Зялёная ваза, у якую кідаліся шары „супроць", асталася пустою. Такім чынам, Скарыне аднагалосна было дазволена трымаць экзамен бясплатна, і ён не зазнаў спусташальных страт.

На другі дзень у прысутнасці 14 прафесараў медыцыны з Падуі і Вероны Скарына прайшоў папярэднюю праверку сваіх ведаў, дзе бліскуча паказаў сваю падрыхтаванасць.

9 лістапада, у аўторак, у епіскапскім палацы ў прысутнасці самога біскупа вікарыя трымае спецыяльны экзамен па медыцыне. Вось што захаваў нам дакумент: „Выдатны рускі доктар мастацтваў Францыск Скарына... на пытанні, сёння раніцаю яму дадзеныя, гэтак пахвальна і бездакорна адказаў на гэтым сваім строгім экзамене, на памяць працытаваўшы дадзеныя яму пытанні і выдатнымі доказамі запярэчыўшы на іх, што ўсімі прысутнымі там дактарамі, пры поўнай адсутнасці нязгодных, быў абраны і прызнаны годным лекарскіх навук і ў прынятым парадку абвешчаны доктарам лекарскіх навук". Доктар Барталамей Барызон урачыста ўручыў яму дыплом і ўсклаў на яго аздобленую золатам доктарскую тогу.

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")**

# Вершы Віктара Шведа

## ШЧЫРАЯ АДМОВА

**Цётка збіраецца ў дарогу**
**І просіць: — Даражэнькі Мішка,**
**Ты маеш часу заўжды многа,**
**Мо падвядзеш мяне хоць крышку?**

**— Хоць часу вольнага багата,**
**Я не магу цябе падвесці.**
**Як толькі выйдзеш з нашай хаты —**
**Мы неадкладна сядзем есці.**

## ХТО РАЗУМНЕЙШЫ?

**— Ты, Міхась, такі дурны кругом,**
**Не зрабіў разумнага нічога.**
**Ты сапраўдным быў бы ўжо аслом,**
**Каб табе прыправіць толькі рогі.**
**— Ты такі ж бязглузды, як пастол!**
**Дзе ж ты чуў, каб быў асёл з рагамі?**
**— Калі так — дык поўны ты асёл,**
**Згодна з заалогіяй таксама.**

## АДГАДВАНКА




Да якога прычалу прывязаны карабель?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## „Я НЕ ПАЖАРНІК!“

У гатэлі сярод ночы нехта грукае ў дзверы нумара. Сонны чалавек гукае:
— Хто?
— Швейцар. Гатэль гарыць!
— Навошта ж вы мяне будзіце!? Я ж не пажарнік!

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ПОЛАЦАК

*Музыка Д. Яўтуховіча*
*Верш Л. Пранчака*

Горад кахання — самотны і мілы,
Цэркаў над рэчкай — бацян
белакрылы.
У цішы муроў
Блукае рэха слоў...

Буду сюды я здалёку вяртацца,
Буду ў саборы тваім спавядацца —
З трапяткой і чыстаю душой,
Невымоўна светлаю журбой
Я стаю перад табой, о...

**Прыпеў:**
Полацак,
Я не буду бяздомнікам!
Над старым малітоўнікам
Плачу я і малюся.
Полацак,
Пад высокаю поўняю
Стала мне малітоўняю
Уся зямля Беларусі.

О, палачанка ў вясельным уборы!
Нас павянчалі ў Сафійскім саборы.
Мне любоў твая да скону дзён
Як салодкі радасны палон,
Як прыгожы дзіўны сон, о...

**Прыпеў.**




# НІЎКА



— *Не ведаю, ці бацькі дазволяць мне на гэты мезальянс?*

## З ЧАГО СМЯЮЦЦА СУСЕДЗІ?

* * *

Пецька вывучае старажытную гісторыю.
— Васіль Іванавіч! Як гэта разумець: „Патрыцыі запрасілі гетэр і наладзілі оргію.“ Што такое оргія?
— П'янка!
— А хто такія гетэры?
— Прастытуткі.
— Ну а патрыцыі хто такія?
— А гэта, Пецька, памылка друку. Не патрыцыі, а партыйцы.

* * *

Штырліц падыходзіць да касы, дзе выдавалі зарплату, і лезе наперад. Фашысцкія афіцэры абурыліся.
— Дазвольце, спадар Штырліц! Якім правам вы так захоўваецеся?
— Героям Савецкага Саюза належыцца без чаргі, — усклікнуў Штырліц.

* * *

Брэжнеў прыйшоў з таго свету.
— Міхаіл Сяргеевіч, пара мяне ўзнагародзіць, даўно ужо не ўзнагароджвалі!
— Дык вы, Леанід Ільіч, быццам бы памерлі...
— А вы пасмяротна ўзнагародзіце!

*„Искра“ № 18/1990*
*(Масква)*

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

3367. Ян Засім с. Уладзіміра (Ляшукі) — 1000 зл.
3368. Уладзімір Стэц (Гайнаўка) — 1000 зл.
3369. Юры Зюзя (Варшава) — 30000 зл.
3370. Гурток БГКТ пры Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім — 10000 зл.
3371. Яраслаў Бура (Гайнаўка) — 29015 зл.
3372. Ахвяраванні ўдзельнікаў „Купалля“ ў Белавежы 6 ліпеня 1990 г. — 617720 зл.
3373. Юрась Сцяпанаў (Віцебск) — 2000 зл.
3374. Клаўдзія і Васіль Петручукі (Беласток) — 20000 зл.
3375. З адкрыцця скарбонкі ў Беластоку — 142400 зл.
3376. Міхась Дулько (Белавежа) — 20000 зл.
3377. Анастасія Асіпюк (Гайнаўка) — 10000 зл.
3378. Ян Баўтрамюк (Гайнаўка) — 4000 зл.
3379. Міраслаў Янюк (Катоўка) — 5000 зл.
3380. Людміла Вайшковіч-Карпенюк (Беласток) — 50000 зл.
3381. Уладзімір Іванюк (Вітава) — 3000 зл.
3382. Аляксандр Харкевіч (Гайнаўка) — 5000 зл.
3383. Ялянта Вішнеўская (Гайнаўка) — 3000 зл.
3384. Пятро Скепка (Гайнаўка) — 10000 зл.
3385. Валянціна Стэць (Орля) — 10000 зл.
3386. Мікалай Кадлубоўскі (Грыгараўцы) — 5000 зл.
3387. Два супрацоўнікі сталовай „Бістра“ ў Гайнаўцы — 2000 зл.
3388. Аляксандр Трафімюк (Старое Беразова) — 10000 зл.
3389. Ян Хіліманюк (Бельск-Падляшскі) — 5000 зл.
3390. Мікалай Карчэўскі (Бельск-Падляшскі) — 2500 зл.
3391. Мікалай Сойка (Пашкоўшчына) — 2000 зл.

Удзельнікі сяброўскай сустрэчы, якая [illegible] я 11 жніўня 1990 г. у Орлі:

3392. Сяргей Клычкоў — 10000 зл.
3393. Сяргей Куптэль — 10000 зл.
3394. Яраслаў Адзіевіч — 10000 зл.
3395. Юры Паплаўскі — 10000 зл.
3396. Ілья Агіевіч — 10000 зл.
3397. Сцяпан Багацэвіч — 10000 зл.
3398. Аляксей Шайкоўскі — 10000 зл.
3399. Ян Паплаўскі — 10000 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komite ... ızeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajn ... volenia 6. Тэлефон 28-89.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— wrzesień — 6.500 zł,
— październik — 5.200 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1243/90 r.